© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 26(82) ◈ 1 ліпеня 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НАВЕДАЎ З ВІЗІТАМ ПОЛЬШЧУ. Лідэрамі дзвюх дзяржаў падпісаны першы ў гісторыі гэтых народаў Дагавор аб добрасуседстве і супрацоўніцтве. Краіны згадзіліся будаваць свае адносіны на прынцыпах узаемнай павагі і партнёрства. пацвердзілі існуючыя паміж імі граніцы, абавязаліся садзейнічаць прагрэсу раззбраення, адмовіліся ад прымянення сілы або пагрозы яе прымянення. Дагавор разлічаны на пятнаццаць гадоў.**

***У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РБ ЗНАХОДЗІЦЦА НА РАЗГЛЯДЗЕ ПРАЕКТ ПАЛАЖЭННЯ АБ НЕДЗЯРЖАЎНЫХ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ, які прадугледжвае адкрыццё прыватных школ, ліцэяў, гімназій грамадзянамі Беларусі. Першыя заяўкі на іх адкрыццё ўжо ёсць у Міністэрстве адукацыі і ва ўпраўленні адукацыі Менгарвыканкама.***

***26 ЧЭРВЕНЯ У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА КІРАЎНІКОЎ УРАДАЎ КРАІН ЧЛЕНАЎ СНД. Было падпісана шмат пагадненняў, але большасць пытанняў так і засталіся нявырашанымі.***

**ПРАГРАМА ВЫВУЧЭННЯ І ПАСТУПОВАГА ПЕРАХОДУ УЗБРОЕНЫХ СІЛ РБ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ ЗАЦВЕРДЖАНА КАМІСІЯЙ МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ БЕЛАРУСІ. На пасяджэнні камісіі было адзначана, што работу трэба пачынаць з комплексу раслумачальных мерапрыемстваў. Ужо з 1 ліпеня ў войсках будуць праводзіцца планавыя заняткі. На працягу 6 гадоў плануецца поўнасцю перайсці на выкарыстанне ва Узброеных Сілах Беларусі дзяржаўнай мовы.**

***УРАД БЕЛАРУСІ У ХУТКІМ ЧАСЕ МЯРКУЕ УВЕСЦІ ВІЗАВЫ РЭЖЫМ ДЛЯ УЕЗДУ У КРАІНУ ЗАМЕЖНЫХ ГРАМАДЗЯН. Мера выклікана ростам злачынстваў з боку асоб «каўказскага паходжання».***

**ВОСЕННЮ НА ЧАРГОВАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ БУДЗЕ ВЫРАШАНА ПЫТАННЕ АБ УЗНАГАРОДАХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. Ужо ёсць прапановы ўвесці званне Герой Беларусі, Ордэн Рэспублікі, ордэн «За мужнасць і адвагу».**

***МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ ЗАРЭГІСТРАВАЛА СВАБОДНЫ ПРАФСАЮЗ БЕЛАРУСІ. Мэты прафсаюза — аб'яднанне намаганняў наёмных рабочых для сумеснай абароны сваіх правоў і законных інтарэсаў, забеспячэнне справядлівай аплаты ва ўмовах рынку.***

**МЕНСКАЯ І МАСКОЎСКАЯ ВОБЛАСЦІ ПАДПІСАЛІ ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ. Дай Бог, каб з гэтага была якая карысць беларусам.**



У дзевяцікласнікаў і выпускнікоў сярэдніх школ Рэспублікі Беларусь закончыліся экзамены.
«Куды пайсці вучыцца далей» — такое пытанне стаіць і перад выпускніцай адзінаццатага класа менскай школы № 166 Вольгай Бабко.

**Фота Юрыя ПАЎЛАВА (БелТА).**

## Каму ёсць справа да беларусаў

*Стар. 2*

◆◆◆◆◆◆

**АБНАДЗЕІЎ АДКАЗ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ КДБ**

**Стар. 4.**

***У Рэспубліканскай Радзе ТБМ***

## МАТЭРЫЯЛЫ ЎСТАНОЎЧАГА З'ЕЗДА

Выдавецтва «Навука і тэхніка» накладам у 300 пасобнікаў выдала зборнік матэрыялаў «Установчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны». У ім друкуюцца даклад старшыні аргкамітэта ТБМ Ніла Гілевіча, прывітальнае слова беларускага ўрада, выступленні дэлегатаў, а таксама пастанова з'езда, спісы дэлегатаў, склад кіруючых органаў ТБМ імя Ф. Скарыны.

І хаця час пасля з'езда прайшоў немалы, але яго матэрыялы застаюцца актуальнымі і сёння.

Набыць зборнік матэрыялаў устаноўчага з'езда ТБМ імя Францішка Скарыны можна ў памяшканні таварыства.

***Нядаўна пры Беларускім дзяржаўным універсітэце створана аддзяленне міжнароднай падрыхтоўкі. У перспектыве плануецца адкрыць цэлы факультэт, на якім будзе вучыцца больш за 200 студэнтаў.***

***Новае аддзяленне існуе пры гістарычным факультэце. Ужо адкрыты прыём на першы курс. Пры жаданні на 'міжнароднае аддзяленне могуць перавесціся і студэнты з іншых факультэтаў. Для гэтага патрэбна ведаць адну ці некалькі замежных моў і добра вучыцца.***

*Яўген ЦУМАРАЎ,*
*народны дэпутат Рэспублікі Беларусь*

## Сталее дзяржава — адраджаецца мова

Шмат дзяржаў свету ішло да сваёй незалежнасці праз нацыянальна-культурнае адраджэнне. Калі перамагалі яго ідэі — утвараліся суверэнныя дзяржавы: Чэхія, Літва... Рэспубліка Беларусь паўстала на абшарах Еўропы ў выніку іншых гістарычных працэсаў, і беларускай нацыянальнай супольнасці наканавана рушыць адваротным шляхам: ад абвяшчэння суверэннай дзяржавы да ўвасаблення ідэй нацыянальна-культурнага адраджэння. Як гэта, з пэўнымі агаворкамі, было ў такіх краінах, як Ізраіль, Ірландыя. Найбольш паказальная гісторыя дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага адраджэння Ізраіля, адметная нацыянальна-рэлігійным згуртаваннем народа, праяўленнем моцнага сацыяльнага інстынкту самазахавання, арыентацыяй на ўласную старажытную культуру, прыхільнасцю грамадства да традыцыйных нацыянальных формаў існавання.

Азначаныя рысы і асаблівасці не з'яўляюцца характэрнымі для Беларусі, якая, аднак, мае свае перавагі на шляху да нацыянальна-культурнага адраджэння. Папершае, дастаткова высокі эканамічны патэнцыял, зручнае геаграфічнае становішча, што паслужыць умацаванню незалежнай дзяржавы і аб'ектыўна будзе спрыяць пашырэнню беларускай культуры і мовы. Па-другое, своеасаблівасць нацыянальнага характару, адметная ментальнасць у беларусаў, якія, нават хто гаворыць па-руску, у пераважнай большасці ў душы не супраць беларускай мовы. Па-трэцяе, у сувязі з тым, што з дзейнасцю нацыянальна свядомай часткі беларускай супольнасці звязаны значныя дэмакратычныя перамены, якія мелі месца ў рэспубліцы, у свядомасці людзей Беларусі усталявалася перакананне: беларускі — значыць дэмакратычны. Разам з тым, мае месца «традыцыйна беларускі», неспрыяльны для нацыянальнага адраджэння фактар: дзейнасць пэўных сацыяльных і грамадска-палітычных груп, якія абапіраюцца на моцную падтрымку дзяржаўна-грамадскіх структур (партый, канфесій і інш.) па-за межамі рэспублікі і зацікаўлены ў тым, каб Беларусь не мела сваёй дзяржаўнасці, а беларускі народ — нацыянальнай мовы.

Як розныя сацыяльныя і ўзроставыя групы насельніцтва Беларусі ставяцца да нацыянальнага адраджэння Бацькаўшчыны? Калі прыняць да ўвагі пэўную ўмоўнасць прыведзеных ніжэй узроставых паказчыкаў, то можна лічыць, што пакаленне людзей Беларусі, якім цяпер 20—40 год, страчана, па вялікаму рахунку, для на-

*(Заканчэнне на с. 3).*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Яўген ЦУМАРАЎ,*

*народны дэпутат Рэспублікі Беларусь*

# СТАЛЕЕ ДЗЯРЖАВА — АДРАДЖАЕЦЦА МОВА

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).*

цыянальна - адраджэнскага руху. Людзі гэтага сацыяльна-актыўнага ўзросту ў большасці сваёй вымушаны траціць жыццёвую энергію на выжыванне — сябе і сваіх сем'яў — ва ўмовах спаду вытворчасці, канкурэнцыі і рынку. Хто з іх меў схільнасць паслужыць беларускай справе, ужо выявіў сябе. Наўрад ці можна разлічваць на вялікі прыток новых нацыянальных сіл з асяроддзя так званага сярэдняга ўзросту.

Вельмі многія з тых, каму цяпер 50 і болей, захавалі павагу да беларускай культуры, нядрэнна ведаюць мову і ў большасці сваёй адчуваюць сябе беларусамі. Тым нашым суайчыннікам, якім зараз 10—14 год і меней, хто наведвае дзіцячы сад або пачатковую беларускую школу, і належыць зрабіць родны край Беларуссю. Пры ўмове, аднак, што сённяшняя нацыянальна свядомая беларуская супольнасць створыць дзеля гэтага пакалення належныя ўмовы для вольнага і змястоўнага нацыянальна-культурнага жыцця.

Калі пагадзіцца з азначанымі вышэй меркаваннямі, то нельга не прыйсці да высновы, што найважнейшай задачай беларускага адраджэння з'яўляецца фарміраванне нацыянальнай пачатковай школы. З гэтага вынікае: беларусізацыя ВНУ (найперш педагагічных), адэкватнае матэрыяльна-тэхнічнае і навукова-метадычнае забеспячэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі, нацыянальна-патрыятычная кадравая рэформа ў галіне адукацыі і г. д. На жаль, Савет Міністраў і Міністэрства адукацыі Беларусі па прычынах суб'ектыўнага характару не ў стане належным чынам вырашаць азначаныя вышэй задачы фарміравання нацыянальнай сістэмы адукацыі. Магчыма, бракуе пакуль усведамлення таго, што з прыняццем Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, законаў аб грамадзянстве, аб культуры, аб адукацыі, аб гербе і сцягу, з ратыфікацыяй міждзяржаўных дагавораў, заключаных у Белавежскай пушчы, павінен змяніцца і падыход да ажыццяўлення заканадаўства, якое рэгулюе моўна-культурныя пытанні. Сталі непрыдатнымі для выкарыстання бээсэсэраўскія ведамасныя нарматыўныя акты аб парадку прымянення Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, якія, да таго ж, ствараліся вельмі часта людзьмі абыякавымі да моўнай спадчыны і нацыянальнай культуры беларускага народа і яўна не былі разлічаны на ажыццяўленне гэтага Закона.

Не адпавядаюць інтарэсам народа Беларусі і даволі сур'ёзна пярэчаць дзеючаму заканадаўству рэспублікі планы і праграмы на наступны 1992/93 навучальны год як агульнаадукацыйных, так і вышэйшых ды сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Відаць, не адчулі іх складальнікі, калі працавалі над імі, біцця сэрца новай, незалежнай Бацькаўшчыны. Чым можна вытлумачыць наступнае: у рускамоўных школах рэспублікі, у якіх па-ранейшаму вучыцца большасць дзетак-беларусаў, беларуская мова выкладаецца 26 гадзін на тыдзень (з улікам гадзін за I—IX класы), прычым у X—XI яна зусім абыдзена ўвагай, а руская мова — 47 гадзін на тыдзень? Яшчэ горшае становішча з вывучэннем беларускай мовы як прадмета, не кажучы ўжо пра дысцыпліны нацыянальна-культурнага напрамку ў вышэйшай школе. Калі на працягу дзесяцігоддзяў вышэйшая школа рэспублікі, арыентаваная на выкананне «сацыяльнага заказу» унітарнай дзяржавы, якой з'яўляўся СССР, прычынялася да разбурэння нацыянальнай культуры, то цяпер яна павінна стаць магутным рухавіком нацыянальнага адраджэння. Калі грамадства знойдзе ў сабе сілы карэнным чынам рэфарміраваць сістэму вышэйшай адукацыі Беларусі ў адпаведнасці з разуменнем яе новага якаснага стану: незалежная дэмакратычная Беларусь, уваходжанне ў Еўрапейскі Дом, набліжэнне да рынкавай эканоміцы.

На жаль, многія з тых, хто ўзначальвае адказныя за адукацыю структуры Савета Міністраў, а таксама Мінадукацыі і многія ВНУ, пакуль што не ў стане забяспечваць дзяржаўныя інтарэсы. Гэтым тлумачыцца тое, што флагман вышэйшай школы рэспублікі — БДУ — адно з самых слабых яе звенняў, хоць са сцен універсітэта выйшлі такія дзеячы, як Станіслаў Шушкевіч, Міхаіл Дзямчук, Віктар Гайсёнак. Правінцыялізм замест нацыянальна-культурнай адметнасці і імкнення да сапраўднай рэформы вышэйшай школы праяўляецца ў паспешлівай рэарганізацыі былых інстытутаў фізічнай культуры, механізацыі сельскай гаспадаркі, замежных моў, політэхнічнага, народнай гаспадаркі — у акадэміі і ва універсітэты. Па іроніі лёсу, Тэхналагічны інстытут, у якім найбольш яскрава праяўляецца імкненне да беларусізацыі, застаецца пры ранейшым найменні, што ніколькі не прыніжае годнасці яго калектыву.

Сярод кола асоб, якія бачаць небяспеку для сябе ў развіцці беларускай нацыянальнай сістэмы адукацыі, мае хаджэнне ідэя стварэння ў Менску расійскага гуманітарнага ўніверсітэта з трыма факультэтамі і трыма мовамі навучання, сярод якіх няма месца беларускай. Тое, што, як мяркуецца, адным з факультэтаў будзе багаслоўскі, арыентаваны на вывучэнне праваслаўя, выразна паказвае аўтарства азначанай ідэі.

А тым часам, паводле дадзеных перапісу насельніцтва 1989 года, аб выніках правядзення антыбеларускай палітыкі ў справе развіцця школы ўсіх тыпаў могуць сведчыць наступныя лічбы: на сто тысяч беларусаў толькі 6 маюць ступень доктара навук, у той жа час на сто тысяч рускіх у рэспубліцы — 33 (на 1987 г.); кандыдатаў навук адпаведна — 93 і 398 чалавек; на тысячу працуючых беларусаў у горадзе і вёсцы адпаведна прыпадае з вышэйшай адукацыяй — 115 і 38, на тысячу працуючых рускіх у рэспубліцы — 244 і 108; ад усяго занятага насельніцтва ў галіне культуры і мастацтва працуюць 1,1 працэнта беларусаў і 1,7 — рускіх, адукацыі адпаведна — 7,6 і 9,9, навукі — 1,9 і 4,3, органах дзяржаўнага кіравання — 3,3 і 7,8 працэнта.

Няхай гэтыя лічбы стануць яшчэ адным доказам таго, што без утварэння дзейсных структур у органах дзяржаўнага кіравання рэспублікі, якія з усёй адказнасцю возьмуцца за высакародную справу адраджэння беларускага слова на бацькаўшчыне, працэс гэты будзе яўна запавольвацца тымі, каму ён не даспадобы. Таму трэба стварыць інспекцыю па наглядзе за выкананнем дзяржаўнай і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь, якая будзе мець падпарадкаваныя ёй структуры ў адміністрацыйных цэнтрах, верагодна, у межах існуючых штатных адзінак. Гэта інспекцыя, акрамя каардынацыі і кантролю за ходам выканання Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь, можа браць на сябе функцыі па вызначэнні лексічных і граматычных норм беларускай мовы. Дзяржаўная структура, якая выконвае роднасныя функцыі, ёсць у шэрагу краін, для якіх нават не стаяць праблемы моўна-культурнага адраджэння, напрыклад у Францыі.

Для поспеху нацыянальна-культурнага адраджэння важна ўмацоўваць дзяржаўны суверэнітэт Беларусі, спрыяць фарміраванню грамадзянскай супольнасці, садзейнічаць умацаванню нацыянальных груп прадпрымальнікаў, уладальнікаў нерухомасці, заможнага працавітага люду, т. зв. сярэдняга класа, беларускага ў духоўна-культурным вымярэнні. Азначаныя вышэй сацыяльныя групы суайчыннікаў, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці, павінны адчуць з боку дзяржавы ўвагу і ласку, калі скіроўваюць сваю дзелавую актыўнасць і прафесійныя высілкі на беларускую справу: праз ільготнае падаткаабкладанне (цяпер у гэтым рэчышчы мае месца палажэнне ў заканадаўстве, згодна з якім не трэба сплочваць падаткі на прыбытак, атрыманы ад выдання кніг на беларускай мове); праз разнастайныя праявы ўвагі ў форме надання ганаровых званняў, уручэння памятных знакаў за важкія заслугі ў справе асветніцтва; праз прапаганду дзейнасці і рэкламу ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі.

Вольны гаспадар, асабліва калі ён будзе працаваць на зямлі, раней ці пазней усвядоміць, хто ён па крыві, які народ даў яму жыццё, а разам успомніць у той ці іншай меры родную мову. Дзеючы Закон аб мовах створаны пад адміністрацыйна-камандную сістэму, і схема яго ажыццяўлення простая: дзяржава клапоціцца аб пашырэнні мовы, праз фарміраванне дзяржаўных нацыянальных структур ідзе працэс нацыянальнага адраджэння. Пакуль слабы маёмны клас, гэта схема можа «працаваць». Але ў перспектыве ў ёй павінна паўстаць прамежкавае звяно: заможнае спадарства, якое ўсведамляе, што годным жыццём яно абавязана беларускай нацыянальнай дзяржаве (а з часам і нацыянальнай ідэі). Схема будзе мець наступны выгляд: дзяржава праяўляе клопат пра замежнае працоўнае спадарства, якое шануе і кіруецца нацыянальнай ідэяй, прымае дзяржаўную мову; дзяржаўныя нацыянальныя структуры садзейнічаюць фарміраванню грамадзянскай супольнасці, якая служыць справе адраджэння, бо зацікаўлена ў тым, каб мець годнае нацыянальна-культурнае жыццё.

Аднак ёсць палажэнні, якія трэба змяніць у Законе аб мовах у Рэспубліцы Беларусь ужо сёння: перагледзець статус рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін; скараціць тэрміны пераводу справаводства на дзяржаўную мову рэспублікі (Пастанова аб уводзенні Закона ў дзеянне); вызначыць адказнасць за невыкананне палажэнняў Закона; прывесці ў адпаведнасць з арт. 6 Закона аб адукацыі нормы Закона аб мовах, якія ўстанаўліваюць правы выбару бацькамі мовы навучання, вызначыць парадак выкарыстання і тэрміны пераводу справаводства на дзяржаўную мову ў Беларускіх Узброеных Сілах, на мытні, у памежнай варце, рачным і марскім флоце, аэрафлоце, дыпламатычных ведамствах і інш.; вызначыць парадак выкарыстання дзяржаўнай мовы пры выкананні рэлігійных абрадаў у складзе афіцыйных дзяржаўных урачыстасцей, свят або жалобных мерапрыемстваў; вызначыць больш дзейсныя механізмы пашырэння беларускай мовы ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі і ў кнігадрукаванні.

Не ўсё можна зрабіць арганізацыйнымі мерамі. Закон аб мовах павольна ідзе яшчэ і таму, што вышэйшыя органы дзяржаўнай улады і кіравання, а часам і Старшыня Вярхоўнага Савета асабіста не заўсёды яго дзейсна падтрымліваюць. Не зусім ясна, чаму паважаны Станіслаў Шушкевіч, не знаходзячы магчымасці прыняць асабісты ўдзел у многіх значных беларускіх грамадскіх акцыях, мае час прысутнічаць, напрыклад, на ўрачыстасці, прысвечанай закладцы каменя на месцы ўзвядзення Рускай праваслаўнай царквой у Менску храма Георгія Перамоганосца. Тое было б зразумелым, калі б у рэспубліцы меліся храмы ўсім беларускім святым, быў узведзены мемарыял у Курапатах, стаялі помнікі волатам беларускай культуры.

Нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Беларусі — нечуваная для многіх яе грамадзян справа — павольна, але ўмацоўваецца. Грамадства, занятае жыццёвымі клопатамі, яшчэ цалкам не ўсвядоміла, што беларуская нацыянальная дзяржава паўстае з нябыту, і раней ці пазней з усёй гістарычнай непазбежнасцю перад яе грамадзянамі ўзнікне праблема выбару, у якім нацыянальна-культурным асяродку існаваць: звыклым, але збедненым, іншародным, або ў кроўна беларускім. Кожны грамадзянін гэты выбар зробіць самастойна, і не варта спяшацца прымушаць яго рабіць гэта. Жыццё само ўсё зробіць, калі падымецца беларуская нацыянальная дзяржава. Іншае — дзеці, новае пакаленне. Гэта наш найпершы клопат і надзея.

Адзін з калег, паважаны народны дэпутат, сказаў: «Мы асуджаны на суверэнітэт». Дадамо, што ў поўным сэнсе ўсёй нашай супольнасці наканавана з цягам часу стаць беларускай не толькі па крыві, але і па духу, мове і культуры.

## *Весткі з Шацілавіч*

### ІНІЦЫЯТАР — ДЫРЭКТАР

***Ужо некалькі месяцаў чуецца роднае слова на аўтастанцыі Шацілавічы. Яе дырэктар спадар А. М. Левін сам склаў неабходныя тэксты і дапамог засвоіць іх дыспетчарам.***

### ДЗЕЙНІЧАЕ ТАПАНІМІЧНАЯ КАМІСІЯ

***Нядаўна пры радзе ТБМ была ўтворана раённая тапанімічная камісія, якая распрацавала сваю праграму, што прадугледжвае ўпарадкаванне найменняў плошчаў і вуліц. Праграма была ўзгоднена з рэспубліканскімі спецыялістамі па тапаніміцы.***

### «РАЕНКА» — ПРАПАГАНДЫСТ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

***Актыўная падтрымка беларускага адраджэння вядзецца раённай газетай «Светлагорскія навіны», у якой друкуецца старонка «Роднае слова» і гістарычна-краязнаўчая старонка «Дрыгавічы». Яе аўтары — мясцовыя і рэспубліканскія мовазнаўцы, гісторыкі, тапанімісты, паэты — разважаюць аб працэсе і навінах адраджэння, аб гісторыі і тапаніміцы горада і раёна.***

**Віктусь РАМАНЦОЎ,**
**сябра рады Беларускага краязнаўчага таварыства.**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# ДЫКТАНТЫ

## Мая зямля

Я хачу правесці вас па зямлі, якая для мяне — і, мабыць, не толькі для мяне — даражэйшая за ўсё, самы ўтульны і чароўны кут.

Якая яна, мая зямля? Гэта залатыя палі збажыны з сінімі вочкамі васількоў, светлыя ад бяроз гаі, што аглухлі ад птушынага звону, і пушчы, падобныя на гатычныя храмы, пушчы, дзе горда нясуць свае кароны алені. Гэта бясконцыя жылы рэк, у якіх плешчуцца бабры і рыба на захадзе сонца, і гэта амаль адзінаццаць тысяч азёр, чыстых, як усмешка дзіцяці.

Гэта ў мінулым герaічная і шматпакутная зямля. Безліч разоў грукаталі па ёй каляснiцы вайны. Але мы, дзецi Беларусi, ганарылiся тым, што ў гэтых войнах яна нiколi не была агрэсарам. Iншая справа, што яна заўсёды мужна i да канца баранiла свой ачаг, сваю праўду i веру.

Памяць маёй зямлі аб гэтым і ў старадаўніх гарадзішчах, і ў курганах, пад якімі спяць яе абаронцы, у барвовых, быццам ад крыві, мурах замкаў, на палетках, дзе працавіты плуг часам выворвае каменную сякеру, меч або гільзы апошняй вайны.

І перш за ўсё, памяць маёй зямлі — гэта людзі і іх вечная, неўміручая праца.

**(Паводле У. КАРАТКЕВІЧА).**

## Несупынныя хвалі жыцця

Калісь, яшчэ ў дні юнацтва, мяне зачароўвалі прасторы зямлі з іх шматлікімі гаманкімі дарогамі, шырокімі і вузкімі, роўнымі і крывымі, паабапал якіх сям-там вынікалі купчастыя ліпы, стромкія таполі або старыя кучаравыя хвоі. Мяне вабілі неакрэсленыя далечы, маўклівыя і мудрыя ў сваёй задуменнасці, з іх узгоркамі, далінамі і крыніцамі, з тонкімі палоскамі лясоў на небасхіле, дзе зямля нібы сходзіцца з небам. І ўсё гэта прыкрывалася празрыстаю заслонаю сiняватай смугi.

Што хаваецца за заслонаю сінечы-смугі? Якія праявы, якія людзі сустрэнуцца мне на шляху вандравання? Праз якія абшары зямлі пройдуць пуцявіны і куды яны прывядуць?

Нічога цікавейшага не было тады для мяне, як прыўзняць заслону сінечы і зазірнуць за яе рубяжы.

З таго часу шмат прайшло гадоў. Многа перамералі мае ногі. Але шумяць і гамоняць несупынныя хвалі жыцця, і ўсё тыя ж шырокія, яшчэ больш прывабныя далечы разгортваюцца перад вачамі.

Новыя дарогі расчыніліся перад нашым народам. І не гасне нястомнае жаданне зірнуць за заслону заўтрашніх дзён.

Будзьце ж вы светлыя і радасныя, наступныя дні людства!

**(Паводле Я. КОЛАСА.)**

## Гарадскі канцэрт дзятла

Вясною асабліва прыкметна, як лясныя птушкі пачалі разведваць і абжываць у гарадах нават невялічкія куткі, дзе ёсць зараснікі, кусты, дрэвы. У Мінску, у Купалаўскім парку, разам са шпакамі па траве пахаджваюць дразды. Усё часцей чуюцца іх галасы сярод галасоў ранніх берасцянак. Нярэдкая госця — сарока. Дзе кватаруе — не ведаю, але дастаткова ёй нават на паўгадзіны завітаць сюды, як заціхаюць дзве сівыя мудрыя вароны, якія не могуць цярпець сарочага ляманту. Дзікія качкі ўжо даўно прыжыліся ў горадзе. На рацэ Свіслач яны і зімуюць.

Нядаўна быў сведкам яшчэ аднаго дзіва. Спярша ніяк не мог уцяміць, адкуль тут ужо каторы вечар стаіць такі дробны бесперапынны грукат. Зусім блізка, над самай галавой. Прыглядаюся да кожнага дрэва. Дзяцел? Непадобна. Ён для веснавой песні выбірае ў лесе сухі тонкі сучок і, як на туга нацятай струне, пачынае свой канцэрт. А гэта ўсё адно як ляскат металічнай талеркі.

З дрэва пераводжу погляд на электрычны ліхтар. Так і ёсць! Лясны барабаншчык аблюбаваў сабе бляшаны каптур над лямпачкай і так заўзята б'е ў яго дзюбай, што попічак разлягаецца па ўсім парку: дзе ты, дзятліха, ляці хутчэй сюды!

**(В. ВІТКА.)**

## Музыка

Шызы мох мерна хрумсціць пад мяккімі падэшвамі, і час ад часу хрупаюць тоўстыя, натапыраныя сасновыя шышкі.

Шум ходзіць паверсе, а ўнізе і ў ветраны дзень цішыня. Там, дзе гушчар. У рэдкім лесе сосны разрастаюцца букетамі. І ядловец не толькі, як кіпарыс, стройны, але яшчэ і разбукечаны.

Я прылёг пад сасонкай на паляне, у рэдкім, з плямамі сонца, цянёчку. Ад ветрыку, што варушыцца знізу, кланяецца ружаватымі гронкамі насенне шчаўя, кланяюцца мятліца і таўкачыкі. Пад імі ціха жывуць чабор і смолкі. Ад ветру, што ходзіць угары, час ад часу шуміць панурая лістота векавых дубоў. А вышэй, у нябесным блакіце, у раскошнай ляноце плывуць, як скубеныя кавалачкі ваты, невялікія, рэдкія аблачынкі.

На паляне, дзе я цяпер ляжу, некалькі дзён назад, калі яна перад дажджамі была таксама сонечная, я пачуў здалёк, ад вёскі, музыку Грыга. Я пазнаў яго: гучала чароўная песня Сольвейг. І стала на душы шчасліва, невытлумачальна ясна ад таго, як добра яна, музыка, перадае нашы пачуцці, як яна неабходная і мастацтву слова.

**(Я. БРЫЛЬ.)**

*Называйце па-беларуску*

## Купальнік

У купальскіх песнях згадваецца шмат раслін ды красак: рамон, жыта, трава памётная, рутачка, мятачка, чырвоная рожачка, крапіва, каліна, маліна, лён, хмель, вінаград... «А дзе тыя краскі? — Дзеўкі нарвалі...»

На Купалле кожная дзяўчына «краскі збірала... вянкі віці». Вянкі пускалі на ваду, варажылі... Хадзілі ў лес шукаць кветку папараці, бо лічылася, што менавіта ў купальскую ноч яна цвіце.

Але ў гэты час у лесе, пераважна ў мяшаным, можна ўбачыць даволі вялікія аранжава-жоўтыя кветкі *купальніка* на высокай (30—75 сантыметраў) сцябліне, апушанай шорсткімі кароткімі валаскамі. Праўда, гэта не асобныя кветкі, а суквецці-кошыкі, як і ва ўсіх іншых раслін сямейства складанакветных (да яго належаць вядомыя сланечнік і рамонак). Лісце на сцябліне купальніка сядзіць папарна, ліст насупраць ліста, а з пазухі кожнага з іх таксама растуць суквецці.

Купальнік — ён жа *купала, буквіца, касцян* (на Брэстчыне ды Гродзеншчыне), *баравы гваздзік* (на Меншчыне), *арніка горная* (навуковая назва) — расліна рэдкая, трапіла нават у Чырвоную кнігу... Настаў час ахоўваць яе. А калісь існавала такое павер'е, што купальнік можа аберагчы сялянскія сядзібы ад рознай пагані, што шкодзіла ў купальскую ноч. Маглі спакойна спаць тыя гаспадары, што загадзя парупіліся нарваць і пакласці на шулы каліўцы купальніка.

## Галадок




У кнізе «Флора Налібоцкай пушчы» можна прачытаць, што *галадок шматгадовы* расце ўздоўж дарог, на пясчаных узлесках, папарах, сухадолах ды распаўсюджаны ён паўсюдна, часта. Але мы не заўважаем гэтай невысокай шызаватай раслінкі з вузкімі шылападобнымі лісцікамі. Не кідаюцца ў вока і яе зеленаватыя без пялёсткаў кветкі. І назву яго мала хто ведае. На Меншчыне галадок называюць *сівец баравы*, на Гродзеншчыне — *грымотнік*, на Віленшчыне — *дзівана, мурышка, пархун*. Навуковая назва — *склерантус* (грэчаскае слова «склерос» — сухі і «антос» — кветка) *пэранніс* (лацінскае «шматгадовы»).

А калісьці галадок быў вельмі вядомай раслінай. Да XVIII стагоддзя ў нашым краі ім нават засявалі вялікія палеткі. А ўсё з-за таго, што на карэньчыках галадка жывуць, дакладней, паразітуюць, лічынкі чарвяца (лацінская назва гэтых кузурак — *парфірафора палоніка*), з якіх выраблялі чырвоную фарбу. Перад Купаллем грамадою хадзілі рваць ці капаць галадок, атрэсвалі ў мяхі з яго карэння чырвоных лічынак.

## Трыпутнік

Уздоўж дарог, сцежак, распіхаўшы ва ўсе бакі зялёных суседзяў, сцелецца, прыціскаючыся да зямлі, лісце *трыпутніку*. Расліна не мае сцябла. Сярод лісця ўзвышаецца толькі кветкавая стрэлка, на якой у шчыльным каласку сабраны сціплыя бурыя ці белаватыя кветкі. Трыпутнік (дзе-нідзе па Віцебшчыне яго называюць і *прыпутнікам*) дасканала прыстасаваны да прыдарожных умоў: лісце і суквецці не ломяцца, а толькі гнуцца, а ўжо вырваць — не вырвеш. А насенне прыліпае да колаў, да ног жывёлы, да абутку і так разносіцца, сеецца.

Але не толькі гэтым адметны трыпутнік. Расліна — сапраўдны скарб, бо мае шмат біялагічна актыўных рэчываў. Нездарма, мабыць, дзе-нідзе на Гродзеншчыне яго называюць *бабкай*. І сапраўды, трыпутнік, нібы павівальная бабка, сваімі добрымі рукамі-лісцем супыніць кроў, загоіць раны на скуры і ў страўніку.

Навуковая назва расліны — *плянтаго* (ад двух лацінскіх слоў — «ступня» і «вадзіць») *маёр* (ад лацінскага «вялікі»).

*Слоўцы, якія паслужаць*

## Сказаў як звязаў

**Сойти на нет** — Сысці на ніц.

**С рассвета до темна** — З цёмнага да цёмнага. = З ранку да вечара.

**Ставить на попа** — Дубала ставіць.

**Старая песня** — Баечка з барадою.

**Стереть в порошок** — Збіць на горкі яблык.

**Судить да рядить** — Радачкі даць.

**Так себе (сносно)** — Забяліўшы (пасаліўшы), можна есці.

**Типун тебе на язык** — Соль табе ў вочы!

**То-то и оно** — А што ты думаў!

**Точить лясы** — Языком мянціць. = Балабоны балабоніць.

**Точь-в-точь** — Як ушыта, як уліта.

**Тяп да ляп** — Сяк-так, наўскасяк.

**Уличить во лжи** — За руку злавіць.

**Ума палата** — Не галава, а цэбар (макацёр).

**Умирать со смеху** — Жывоцікі надрываць.

**У чёрта на куличках** — У чарцячым пекле.

**Хватить через край** — Узяць лішне на пуп.

**Ходить по миру** — Старцаваць. = Хадзіць з торбаю па хатах.

**Хоть бы хны** — І хоць бы што. = І хоць бы вухам павёў.

**Хоть глаз выколи** — Хоць на ражон уссунься.

**Хоть кол на голове теши** — Упарты як бык.

**Хоть топор вешай** — Як полк салдат начаваў.

**Чёрт дернул за язык** — Язык засвярбеў.

**Чёрт тебя дери** — Каб на табе чэрці смалу вазілі!

**Чесать языки** — Языкамі мянціць (малоць).

**Что за беда** — Каб большага ліха (гора) не было.

**Шут гороховый** — Пасмехач. = Боўдзіла дурное.

**Шутки в сторону** — Хопіць зубы скаліць. = Выскалкі да дабра не давядуць.

**Первое время** — На першым часе.

**Перебиваться с куска на кусок** — Перабівацца з хлеба на квас.

**Пересчитать рёбра** — Рэбры перамацаць.

*Павел МІСЬКО*

## Кароткі слоўнік эканомікі

**АРЭНДА. Паняцце ў сёняшні час набывае ўсё большае значэнне. Магчыма, карыстанне маёмасцю ў такой форме будзе папярэднічаць масавай прыватызацыі, якую нам абяцае парламент у бліжэйшы час. Карыстанне гэта грунтуецца на пісьмовым, адпаведным чынам завераным дагаворы, дзе абавязкова ўказваецца тэрмін яго дзеяння. Права здачы ў арэнду належыць уладальніку, у тым ліку замежным юрыдычным асобам і грамадзянам. Арэндадавальнікамі могуць выступаць і арганізацыі, калі ўладальнік дазволіў ім выконваць гэту функцыю. Так, зараз дзяржаўныя прадпрыемствы надзелены правам здаваць у арэнду падраздзяленні і каштоўнасці, што знаходзяцца ў іх распараджэнні. Дагаворам аб арэндзе абавязкова прадугледжваюцца ўмовы, тэрмін арэнды і арэндная плата.**

**У сваю чаргу, арэнднае прадпрыемства як рыначны суб'ект мае права самастойна весці вытворчасць, рэалізаваць прадукцыю, прадаваць, абменьваць ці нават здаваць у арэнду, што ўжо называецца субарэндай, а таксама аддаваць у часовае карыстанне матэрыяльныя каштоўнасці, якія ўваходзяць у састаў арэндаванай маёмасці, калі гэта не парушае арэнднага дагавора.**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе*
*Лявон* **БАРШЧЭЎСКІ**

Ужо ў XIV стагоддзі ў англійскай паэзіі з'явіліся дзве постаці, што прадвызначылі яе доўгі залаты век. Гэта Уільям Лэнгланд (каля 1332 — каля 1377) — аўтар антыфеадальнай паэмы «Мроі пра Пятра Аратага» і Джэфры Чосер (каля 1340—1400) — стваральнік славутых «Кентэрберыйскіх апавяданняў», якога будучыя пакаленні назвалі «бацькам англійскай паэзіі». Сёння ў нашай рубрыцы змяшчаюцца невялікія ўрыўкі — першыя радкі названых вышэй твораў.

*Уільям* **ЛЭНГЛАНД**

### З «Мрояў пра Пятра Аратага»

Неяк раз улетку сонечнай часінай
Я, пастух авечы, не святы ва ўчынках,
На сябе надзеўшы ўбранне пілігрыма,
Рушыў у шырокі свет сваёй сцяжынкай.
Майскай раніцою ў Мілвэрнскай даліне,
Марачы аб цудах ды прыгодах дзіўных,
Захацеў прылегчы я ля ручаіны —
Гэтак я з дарогі прагнуў адпачынку.
У ваду глядзеў я, аж пакуль дрымоту
Не нагнаў чароўнай ручаіны плёскат...
І пачаўся сон мой казачна-прыгодны:
Нібы я — ў пустэльні нейкай незнаёмай,
А перада мною — там, дзе бок усходні —
Вежа вышынёю да нябёс стаяла
За равом глыбокім моцна і трывала;
Там астрог мясціўся, а наўкол, на волі,
Розны люд убачыў я ў шырокім полі...

*Джэфры* **ЧОСЕР**

### З «Кентэрберыйскіх апавяданняў»

Як красавік патокам вод салодкіх
Даў сакавіцкай смазе век кароткі —
Ў зямлі, што спажыла яго напой,
Сцяблінка стала кожная жывой;
Калі зефір на ўсіх галінках дрэў
Пяшчотныя пупышкі адагрэў,
Калі ўзнялося маладое сонца
Пад знак Барана і чутно бясконца
Было піянне птахаў дзесь высока,
Што й ноччу не замружаць адно вока
(Да гэтага змушае іх прырода).
Нямала выпраўлялася народу
Ў паломніцтва тады з усіх куткоў —
Каб проста пакланіцца зноў і зноў
Рэліквіям заморскім ды святому
Пакутніку Тамашу, што нікому
У дапамозе не адмовіў — як прасілі,
Ягонай верачы дзівоснай сіле...

**Пераклад з сярэднеанглійскай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

*Проза*

*Айзек* **АЗІМАЎ**

# СВЯТЛО ЗОРАК

***Айзек Азімаў нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Пятровічы пад Смаленскам. Але хутка яго бацькі эмігрыравалі ў Злучаныя Штаты, дзе ён зрабіўся сусветна вядомым пісьменнікам-фантастам. Праўда, многія людзі больш ведаюць яго, як прафесара Гарвардскага і Бостанскага універсітэтаў, дзе ён выкладаў біяхімію да таго, як поўнасцю прысвяціў сябе літаратурнай працы, і як аўтара навукова-папулярных кніг па фізіцы, хіміі, матэматыцы, астраноміі. Пісаць ён пачаў даволі рана: ужо ў 1939 годзе з'явілася яго першае апавяданне «Аварыя каля Весты». З таго часу ён апублікаваў больш за чатырыста кніг.***

***Любімым жанрам Азімава з'яўляўся дэтэктыў. Найбольш папулярныя яго творы — дэтэктывы на фантастычнай аснове: «Засnаванне», «Сталёвыя пячоры», «Нагое сонца», «Цячэнні ў космасе». У 1968 годзе з друку выйшаў зборнік апавяданняў «Таямніцы Азімава», з якога і ўзята апавяданне «Святло зорак».***

Артур Трэнт чуў іх вельмі ясна. Напружаныя галасы і злыя словы, што літаральна стралялі з рацыі:

— Трэнт! Ты не зможаш збегчы. Мы перахопім цябе праз дзве гадзіны і ўзарвём, калі ты будзеш супраціўляцца.

Трэнт усміхнуўся і нічога не адказаў. У яго не было зброі і ён не збіраўся біцца. Хутка ён зробіць «скачок» праз гіперпрастору, і яго ніхто не знойдзе. У яго ёсць каля кілаграма «кірыліюма», якога дастаткова для стварэння мозга тысячам робатаў. А гэта каштуе дзесяць мільёнаў крэдытак у любым кутку галактыкі. Дый пытанняў пакупнікі задаваць не будуць.

Усё спланаваў стары Брэнмеер. Ён планаваў гэта гадоў трыццаць ці не болей. Усё жыццё паклаў.

— Гэта шлях уцёкаў, хлопча,— казаў ён.— І для гэтага мне патрэбны ты. Ты можаш кіраваць касмічным караблём, а я не.

— Космас нас не выратуе, пан Брэнмеер,— сказаў Трэнт.— Нас схопяць праз паўдня.

— А вось і не,— хітравата ўсміхнуўся Брэнмеер.— Калі мы зробім «скачок», праляцім праз гіперпрастору і апынемся ў тысячах светлавых гадоў ад праследавацелей.

— Каб падрыхтаваць «скачок», трэба амаль паўдня. І нават калі нам пашанцуе, паліцыя ўсё роўна папярэдзіць усе зорныя сістэмы.

— Не, Трэнт, не,— рука старога схапіла ягоную.— Не ЎСЕ сістэмы, а толькі з тузін суседніх. Галактыка вялікая, і каланісты за апошнія пяцьдзесят тысяч гадоў згубілі сувязі.

Ён гаварыў з захапленнем, падобны на мастака, што малюе карціну.

Галактыка цяпер нагадвала колішнюю бацькаўшчыну чалавецтва,— калісьці яна звалася Зямля,— у дагістарычныя часы. Людзі жылі на ўсіх кантынентах, але ведалі толькі сваіх бліжэйшых суседзяў.

— Калі мы «скочым» усляпую,— сказаў Брэнмеер,— дык апынемся недзе за пяцьдзесят тысяч светлавых гадоў адсюль. І знайсці нас там будзе гэтак жа немагчыма, як каменьчык у метэарытным патоку.

Трэнт паматаў галавой.

— І мы згубімся. У нас амаль не будзе шанцаў знайсці населеную планету.

Брэнмеер абвёў пакой вачыма. Побач нікога не было, але ён усё роўна перайшоў на шэпт.

— Трыццаць год я збіраў інфармацыю пра ўсе населеныя планеты галактыкі. Я вывучыў усе архіўныя запісы. Уяўна падарожнічаў за тысячы светлавых год. Далей за любога касмічнага пілота. Каардынаты кожнай населенай планеты знаходзяцца цяпер у блоку памяці лепшага камп'ютэра ў свеце.

Трэнт ветліва ўзняў бровы.

Брэнмеер гаварыў:

— Я стварaю камп'ютэры, таму маю самы лепшы. Я таксама знайшоў каардынаты ўсіх яркіх зорак галактыкі. Усіх зорак класаў *F*, B, A і O, і змясціў іх у блок памяці. Як толькі мы зробім «скачок», камп'ютэр пачне параўноўваць спектраскопам усе бачныя зоркі, знойдзе самую яркую і пачне шукаць яе каардынаты. Як толькі ён вызначыць, дзе мы знаходзімся, дык адразу аўтаматычна падрыхтуе новы «скачок» да бліжэйшай населенай планеты.

— Гучыць складана.

— Але спрацуе. Я столькі год на гэта паклаў, што яно мусіць спрацаваць. Мне засталося год дзесяць пажыць мільянерам. Але ты малады, табе жыць і жыць.

— Але калі «скочаш» усляпую, дык можаш урэзацца ў зорку.

— Ніводнага шанца з сотні трыльёнаў, Трэнт. Мы таксама можам трапіць надта далёка ад бачных зорак, і камп'ютэр нічога не зможа знайсці. Мы можам «скочыць» адно на два-тры светлавыя гады, і паліцыя ўсё яшчэ будзе ў нас на хвасце. Але тут шанцы яшчэ больш малыя. Калі хочаш хвалявацца, дык падумай, што проста можаш памерці ад сардэчнага прыступу ў момант узлёту. На гэта шанцаў значна больш.

— Але гэта можаце быць вы, пан Брэнмеер. Вы стары.

Той паціснуў плячыма.

— Гэта неістотна. Камп'ютэр зробіць усё аўтаматычна.

Трэнт інфармацыю запомніў. І аднойчы апоўначы, калі карабель быў падрыхтаваны, а Брэнмеер прыехаў з партфелем, поўным «кірыліюма»,— здабыць яго было няцяжка, яму вельмі давяралі,— Трэнт адной рукой узяў партфель, а другой...

Нож усё яшчэ быў лепшай зброяй. Хуткай, як малекулярны дэпапярызатар, такой жа смяротнай і значна больш ціхай. Нож Трэнт пакінуў у целе. На ручцы засталіся яго адбіткі. Якая розніца? Яго ўсё роўна не зловяць.

Цяпер, у космасе, з паліцэйскімі караблямі на хвасце, ён рыхтаваўся да «скачка».

На імгненне ўтварылася пачуццё, быццам карабель і ён сам апынуліся ў пустаце без часу, прасторы, матэрыі. Тут жа ўсё гэта вярнулася, але на іншым баку галактыкі.

Трэнт усміхнуўся. Ён быў жывы. Побач былі тысячы зорак. Неба проста зіхацела, і па канфігурацыі іх ён зразумеў, што «скочыў» вельмі далёка. Некаторыя зоркі па яркасці былі блізкія да класа *F*. Камп'ютэр хутка вызначыць каардынаты.

Ён адкінуўся на спінку фатэля і глядзеў на яскравы дыван зорак. Раптам у ілюмінатары з'явілася вельмі яркая зорка. Яна была побач, у пары светлавых гадоў. Пачуццё пілота падказала яму, што зорка вельмі гарачая. Камп'ютэр абярэ яе і пачне шукаць яе каардынаты. І зноў ён падумаў: доўга гэта не працягнецца.

Але ён памыліўся. Беглі хвіліны. Прайшла гадзіна. А камп'ютэр усё яшчэ шукаў каардынаты.

Трэнт насупіўся. Чаму ён ніяк не можа знайсці інфармацыю? Яна мусіць быць там. Брэнмеер паказваў яму сваю трыццацігадовую працу. Ён НЕ МОГ прапусціць зорку ці запісаць яе не пад тымі каардынатамі.

Вядома, зоркі нараджаліся і паміралі, рухаліся па космасе. Але гэтыя змены былі вельмі і вельмі павольныя. Тая інфармацыя, якую запісаў Брэнмеер, не магла змяніцца і за мільён гадоў.

Раптам Трэнта ахапіла паніка. Не! ГЭТАГА НЕ МОЖА БЫЦЬ! Шанцаў на гэта было яшчэ меней, чым трапіць у сярэдзіну зоркі.

Ён пачакаў, пакуль яркая зорка з'явілася ў ілюмінатары зноў. Калі ён наладжваў тэлескоп, рукі яго дрыжэлі. Вакол яркага круга быў бачны характэрны туман турбулентных газаў.

То была «нова»!

Яна з'явілася прыкладна месяц таму. Калісьці яна была зусім няяркай зоркай, якую не варта было заносіць у памяць. Але цяпер камп'ютэр звярнуў увагу менавіта на яе.



Брэнмеер не ўключаў яе ў блок памяці. Калі ён збіраў інфармацыю, яна не існавала як зорка. Прынамсі, як яркая бачная зорка.

— Не звяртай на яе ўвагу!— завішчаў Трэнт.

Але ён крычаў на машыну, якая будзе аўтаматычна параўноўваць «нову» з інфармацыяй у памяці. Не знойдзе яе і пачне ўсё зноўку, пакуль не скончыцца энергія.

Але кісларод скончыцца значна раней.

Безданамоўна Трэнт упаў у фатэль, гледзячы праз ілюмінатар на яркую кропку. Пачалося доўгае чаканне смерці.

І чаму ён не захапіў з сабой нож...

**З англійскай мовы пераклаў Алесь КУДРАЎЦАЎ.**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



У Брэсце прайшоў першы дзіцячы фестываль выканаўцаў на народных інструментах. Юныя музыканты Брэстчыны і Гродзеншчыны, Санкт-Пецярбурга, Ровенскай і Валынскай абласцей Украіны прыехалі ў горад над Бугам паказаць сваё майстэрства ігры на домбры, цымбалах, акардыёне, баяне, скрыпцы. Удзельнікі фестывалю выступалі на адкрытых пляцоўках, дзякуючы чаму з іх талентамі змаглі пазнаёміцца многія гараджане.

Такія святы музыкі стануць традыцыйнымі і будуць праводзіцца ў Брэсце раз у два гады з запрашэннем юных талентаў з усіх краін Еўропы.

**На здымку:** дамбрыстка з Роўна Таміла Ліцвінец (другая злева) пасябравала на фестывалі з дзяўчатамі з брэсцкага ансамбля народнай музыкі «Забаўленкі» Наташай Банчкоўскай, Кацяй Філінай і Светай Рубель.

**Фота Эдуарда КАБЯКА. (БелТА).**

# Беларускі народны каляндар



*Ліпень* — апагей лета, найвышэйшы росквіт прыроды ў гадавым цыкле, калі ліпы ахінаюцца ў белую квецень і пчаліны гул, а лугавыя травы і збажына пышна красуюць. У земляробаў ліпень — час касавіцы, не за гарамі і жніво. Як тут не прыгадаць славутыя радкі нашага песняра:

Ідуць касцы, звіняць іх косы,
Вітаюць іх буйныя росы,
А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы.

У народзе кажуць: «Ліпень пякучы, але даручы», «Хто ў ліпні на полі пацее, таго ўзімку і печка нагрэе», «Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае», «Як пайшла карова па пракосе, то малако знялося, а як пойдзе па іржышчы — назад сышча».

7 (пятніца). На гэты дзень прыпадае старадаўняе свята *Купала, Купалле.* З ім звязаны шматлікія абрады, павер'і, легенды, варажба. Узыходзіць свята да традыцый першабытнага грамадства. Прыгадваецца ў летапісах з XII ст. і ў беларускіх граматах XIV ст.

Справа ў тым, што нашы продкі-язычнікі абагаўлялі сонца як крыніцу святла і цяпла, у іх існаваў культ сонца. Купалле і ёсць свята ў гонар сонца.

Да абрадавых свят сонечнага культу, што дайшлі да нашага часу, вучоныя, акрамя Купалля, адносяць Каляды, Масленіцу, Вялікдзень і Багач. Агульная іх рыса — грамадскі характар, традыцыя адзначаць іх калектыўна, а не кожнай сям'ёй паасобку. Па словах А. Багдановіча, яны прынароўлены да хрысціянскіх свят, але звязаны з такімі поглядамі і суправаджаюцца такімі абрадамі, якія нічога агульнага не маюць з іх хрысціянскім значэннем.

У старажытнасці Купалле было прымеркавана да летняга сонцастаяння. Пасля таго як хрысціянская рэлігія сумясціла з гэтым святам сваё — у гонар Івана Хрысціцеля (Прадцечы), яно набыло здвоеную назву: Іван + Купала далі Івана Купалу.

Адна з самых цудоўных купальскіх легенд — пра папараць-кветку. Падаём яе ў пераказе А. Багдановіча:

«Папараць, як гаворыць павер'е, цвіце толькі ў ноч на Купалу; цвіце адно імгненне; кветачкі яе гараць, як іскрынкі. Заўладаць гэтымі кветкамі вельмі цяжка, бо нячыстая сіла чыніць розныя перашкоды: адводзіць вочы, а больш за ўсё палохае рознымі страхамі, так што за справу трэба брацца ўмеючы, нават не кожнаму чараўніку гэта па сілах. Часцей за ўсё тыя, хто пайшоў у лес за гэтай цудоўнай кветачкай, паміраюць ад страху. Збірае гэтыя кветкі бесперашкодна толькі Купальскі Дзядок. Ён ходзіць з кошычкам і напаўняе яго кветкамі, так што гэты кошычак нібы жар гарыць. Купальскі Дзядок — добры. Калі з ім сустрэцца і падасладць абрус, то ён кіне на яго адну кветачку. Хапай тады яе хутчэй і, разрэзаўшы далонь правай рукі, кладзі пад скуру: адтуль нячысцік не дастане. Шчаслівы ўладальнік цудоўнай кветкі станавіўся празарліўцам, у асаблівасці ён ведаў, дзе якія скарбы ляжаць і як да іх падступіцца, ведае, якія закляцці на іх накладзены і як іх адчараваць. Зразумела, што нячысцікі, якія пільнуюць скарбы, усімі сіламі імкнуцца адабраць кветачку».

Галоўнае месца ў купальскай абрадавасці займала вогнішча, якое ладзілася на высокім месцы. Народ верыў у цудадзейную ачышчальную сілу агню. Праз яго скакалі, палілі на гэтым вогнішчы непрыдатныя рэчы і сухое галлё. Пры гэтым спявалася песня, таксама, па ўсяму відаць, складзеная ў гонар сонца:

Купальская ночка кароткая,
Соўнійка рана ўсходзіла,
Рана ўсходзіла, поле асвяціла;
Дзявок, хлопцаў будзіла,
Работку давала, у поле пасылала,
Каб хлопчыкі агні палілі,
Поле свяцілі, жыта пільнавалі,
Каб ведзьмы заломаў не ламалі,
У кароў малака не адбіралі.
Адбяры, Божа, таму ручкі-ножкі,
Выдзеры, сова, са лба вочкі,
Каб яны свету не бачылі,
Яснага сонца не відзелі!
А дзевачкі каб жыта зажыналі,
Краскі-цвяточкі збіралі,
Вяночкі звівалі, на галаваньку клалі,
У таночку скакалі, хлопцаў прывабялі.

(Пасля кожнага радка паўтараюцца словы «соўнійка, соўнійка»).

12 (нядзеля). *Свята апосталаў Пятра і Паўла*, у народзе больш вядомае пад назвай *Пятрок* («Пятрок — асенні святок», «Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ільля — апала два, прыйшла Прачыстая — апалі ўсе чыста»).

У старажытнасці — язычніцкае земляробчае свята, у аснове якога быў культ зеляніны і кахання, аб чым сведчыць аграрна-магічная накіраванасць яго абрадаў, песень і варажбы. Дахрысціянская назва свята не захавалася. Пятрок — арганічны працяг купальскіх урачыстасцей. Моладзь даўней вадзіла карагоды ад Купалы і да Спаса (19 жніўня). Пятру папярэднічае пост, пра які гаворыцца: «Пятроўка — самая галадоўка».

Святых Пятра і Паўла народ лічыў сваімі апекунамі і памочнікамі ў гаспадарчых справах («Святы Пётра косы вострыць, а святы Паўла граблі робіць»). На Пятроўку спявалі:

Ой, разгон, разгон Пятроў дзень,
Паразганяў дзевачкі з гулячкі;
Годзі вам, дзевачкі, тут гуляць,
Бярэце сярпочкі, ідзеце жыта жаць!

14 (аўторак) *Кузьма і Дзям'ян.* Пачатак сенакосу. У паўднёвай Беларусі — зажынкі.

25 (субота) *Прокл.* Пра яго казалі, што прыносіць вялікую расу, таму людзі стараліся да гэтага дня высушыць сена, каб не пагніло.

Для ліпеня характэрны частыя ліўневыя дажджы з градам, моцныя вятры, што перашкаджаюць уборцы ўраджаю.

**І. К.**




**У заключэнне нашай гаворкі аб лячэнні мёдам розных хвароб працягваем публікаваць найбольш папулярныя рэцэпты.**

### ПРЫ ТУБЕРКУЛЁЗЕ

**1.** Мёду 100—150 г на дзень з малаком.

**2.** Падагрэць (не кіпяціць) разам: 10 г мёду, 100 г сметанковага масла, 100 г шмальцу або гусінага тлушчу, 10 г соку алоэ і 100 г какавы. Прымаць па 1 сталовай лыжцы на шклянку гарачага малака раніцай і вечарам.

**3.** Лісце алоэ ва ўзросце 3—5 гадоў вытрымаць у цёмным месцы пры тэмпературы 4—8°С на працягу 12—14 дзён. Потым лісце прамыць вадой, пакрышыць і заліць кіпячонай вадой у суадносінах 1:3, настойваць 1—1,5 гадзіны, потым выціснуць сок. 100 г гэтага соку змяшаць з 500 г пакрышаных грэцкіх арэхаў і дадаць 300 г мёду. Прымаць па 1 сталовай лыжцы 3 разы на дзень за 30 мін. да яды.

**4.** Змяшаць разам 100 г мёду, 100 г сметанковага масла, 15 г соку алоэ. Прымаць па 1 сталовай лыжцы на шклянку гарачага малака раніцай і вечарам. Сумесь эфектыўная і пры кішэчна-страўнікавых захворваннях.

**5.** Пры туберкулёзе і хранічным запаленні горла прымаюць сумесь мёду з сокам алоэ. Зрэзанае ніжняе лісце алоэ прамыць вадой, дробна пасекчы і выціснуць сок. Мёд развесці гэтым сокам з разліку 1:5, прымаць па 1 чайнай лыжцы 3 разы на дзень да яды на працягу 1—2 месяцаў.

# Крыжаванка-пераклад



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Путешествие, скитание. 8. Март. 9. Словарь. 11. Вес. 12. Ость. 13. Охват. 18. Подножный корм. 20. Комната. 21. Легковесность. 22. Пахарь. 24. Чашка, кружка. 26. Проволока. 28. Крыльцо. 30. Утюг. 31. Трясогузка (белая). 32. Парное молоко. 33. Лепёшка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Уважение. 2. Оттепель. 3. Зоб. 4. Знаток. 6. Совет. 7. Ничего. 10. Скирдование. 14. Сумка. 15. Пример. 16. Завоевание. 17. Молва, слух. 19. Пение (в школе). 20. Крыса. 23. Срок. 25. Вход. 27. Ткань (анатомическая). 28. Звуковой. 29. Обида. 30. Промах, просчёт.

г. п. Бялынічы. Склаў Віктар СУХАРАЎ.

# Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 24

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Абрус. 2. Унаймы. 3. Паліца. 4. Ануча. 7. Гарышча. 8. Палонка. 9. Лейчына. 11. Шапаценне. 12. Сланечнік. 14. Млынары. 15. Сцішэць. 20. Закраса. 21. Схібіць. 22. Гандляр. 26. Гарбар. 27. Знарок. 28. Хмара. 30. Абрыс.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Абутнік. 6. Абарона. 10. Умаўляцца. 13. Ашукаў. 16. Улічым. 17. Клікаць. 18. Уцешны. 19. Ашалеў. 23. Брахаць. 24. Скронь. 25. Півоня. 29. Маснічына. 31. Прынада. 32. Хлопчык.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін.

Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Віктар Шніп.

Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 6993 паасобнікі Зак. 1184. Індэкс 63865.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012